стр.3 П'яніцы ўласнасць не патрэбна
стр.4 Калі прачынаецца сумленне
стр.5 Пра што думае начальства?

# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.



№ 5 (138). 27 студзеня — 2 лютага 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт 60 руб.




**Напэўна так і думаў слонімец (якога вы бачыце на здымку), які 20 студзеня ў 10 гадзін раніцы ехаў на веласіпедзе па Чырвонаармейскай вуліцы.**

На скрыжаванні вуліц ён, не падаўшы знак рукой, раптоўна павярнуў. Аўтобус, які ехаў за ім следам, тараніў мужчыну і «паклаў» на асфальт. На шчасце, веласіпедыст моцна не пацярпеў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# МАРОЗ ПРАЭКЗАМЕНАВАЎ КАМУНАЛЬНІКАЎ

**У мінулую суботу (22 студзеня) жыхары не толькі цэнтральнай часткі Слоніма, а таксама вуліц Брэсцкай, Яршова, Тапалёвай і іншых адчулі ў сваіх кватэрах холад.**

За вокнамі ціснуў мароз. Батарэі ў кватэрах паступова астывалі. Праз пэўны час цяпло зусім перастала паступаць. Пазней высветлілася, што на адным з участкаў цеплатрасы здарылася аварыя. Пракаменціраваць сітуацыю карэспандэнт "ГС" папрасіў дырэктара прадпрыемства гарадскіх ацяпляльных сетак Уладзіміра Шукалу. Вось што ён сказаў:

— Сапраўды, у суботу каля 16 гадзін у раёне вуліцы Яршова прарвала цеплавую магістраль. Труба "разышлася" на 70 см. На ліквідацыю аварыі былі кінуты ўсе сілы нашага прадпрыемства, а таксама рабочыя з СПМК-64. Людзі працавалі ўсю ноч, і толькі ў нядзелю аварыя была ліквідавана. Праўда, за гэты час "завяздушыла" ацяпляльныя сістэмы ў дамах, і многія кватэры некалькі дзён заставаліся без цяпла. А ў трох пад'ездах нават лопнулі ад марозу батарэі, — сказаў Уладзімір Шукала.

Сапраўды, сітуацыя з нечаканай аварыяй склалася непрыемная. Таму слонімцаў у першую чаргу хвалявала пытанне: ці хутка ў кватэрах пацяплее? З падобным пытаннем яны і звярталіся ў аварыйную службу. Тэлефонныя званкі там не змаўкалі суткі. А чаму б, напрыклад, адразу праз тое ж раённае радыё не паведаміць людзям пра аварыю, не сказаць, калі яна будзе ліквідавана і ў які дзень і час у дамах будуць "развяздушваць" батарэі, каб былі адчынены падвалы і г.д. Усё можна было зрабіць хутка і своечасова, калі б улады сапраўды клапаціліся пра сваіх жыхароў. Тым больш, што на вуліцы стаіць зіма, якая ў любы час і яшчэ не раз можа праэкзаменаваць не толькі прадпрыемства ацяпляльных сістэм, але і многія іншыя службы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# ЯКІ ПАЙ — СТОЛЬКІ Й АТРЫМАЙ

**На цяперашні час у Слонімскім райспажыўсаюзе налічваецца каля дзевяці тысяч чалавек, якія з'яўляюцца яго пайшчыкамі. У савецкі час грашовы ўзнос (пай) складаў 10 — 15 тагачасных рублёў, якія людзі выплочвалі на працягу года. Членства ў спажывецкім таварыстве ў той час давала вяскоўцам пэўныя льготы пры набыцці тавараў ці рэалізацыі сельгаспрадукцыі.**

У лютым 1999 года быў зроблены пераразлік і індэксацыя паевых узносаў членаў таварыства, а з чэрвеня ім пачалі выдаваць членскія кніжкі новага ўзору з запісам астатка паевага ўзносу з улікам індэксацыі. У сярэднім, гэта сума склала ажно 100 тысяч недэнамінаваных рублёў ці 100 рублёў з улікам дэнамінацыі. Пры выхадзе з таварыства чалавек можа атрымаць гэтыя грошы.

Пры цяперашняй эканамічнай сітуацыі членскія ўзносы наўрад ці дапамогуць падтрымаць 112 вясковых крамаў і 43 кропкі грамадскага харчавання. Дарэчы, большасць з іх нерэнтабельныя. Па словах старшыні праўлення таварыства Сяргея Рагозіка, асноўная крыніца даходаў райспажыўсаюза — нарыхтоўкі ад насельніцтва.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

прошу слова

# МОЖЕТ ЛИ БЕЛАРУСЬ ПРОЖИТЬ САМОСТОЯТЕЛЬНО?

Ежедневно средства массовой информации нас убеждают в том, как мы будем прекрасно жить в союзе с Россией. Ведь у нас нет своих нефти и газа, а там этого добра много. У многих государств этого нет, и живут они неплохо. А вот в России все это есть, все условия имеются, чтобы прилично жить, а Россия — нищая.

Стоит эта великая страна на коленях перед миром с протянутой рукой, прося кредиты, чтобы тут же их проесть. Россия не в состоянии вернуть иностранным банкам не только долги, а даже проценты по долгам. И если кредиторы заставят Россию вернуть все, что она брала, то страна будет объявлена банкротом. Россия не может дать приличную жизнь своему народу, так зачем ей Беларусь? Скорей ей нужен не белорусский народ, а наша территория. Нас уверяют, что белорусский и русский народы жили веками в тесной дружбе, как братья. Однако история свидетельствует об обратном. Вот только несколько примеров.

Московский царь Иван IV вошёл в белорусскую историю как захватчик и палач. В 1563 году его войска вошли в Полоцк и жестоко расправились с населением, угнали десятки тысяч человек в неволю.

В 1705 году Петр I приехал в Полоцк с 70 тысячами солдат. Он превратил белорусские города и храмы в руины. С 1705 по 1710 г. русские войска уничтожили 800 тысяч белорусского населения.

Когда российским царям нужно было подавить освободительное движение в Беларуси, они отправляли сюда Суворова. Во время восстания под руководством Тадеуша Костюшко в Беларуси и Польше против российского царизма в 1794 году Суворов беспощадно жег белорусские села и города, истреблял мирное население. Россия высоко оценила его "подвиги". За пролитую белорусскую кровь Екатерина II пожаловала ему в вечное пользование Кобринский уезд с 50 тысячами крестьян.

После окончательной аннексии Беларуси только за 1796-1799 годы в царское войско отправили 49 тысяч белорусов, а с 1801 по 1812 года — 130 тысяч. Служили белорусы в составе армий Барклая де Толли и Багратиона, которые на себя взяли главную тяжесть военных действий в Бородинской битве. Их мало осталось в живых. Когда белорусские земли были захвачены Россией после подавления национально-освободительного восстания 1863-1864 г.г., царские власти направляли сюда священников и чиновников с целью осуществления своей имперской политики.

**(Продолжение на стр.2)**

НАВІНЫ

## Прызыўнік жыве ў Польшчы

**25 студзеня ва ўзброеныя сілы Беларусі быў адпраўлены апошні прызыўнік са Слонімшчыны.**

Аднак, па словах ваенкома Аляксандра Купкі, прызыў афіцыйна працягваецца да канца месяца. У войска адпраўлена 94 юнакі. Палова іх застанецца служыць у Слоніме, астатнія будуць праходзіць вайсковую службу ў памежных войсках, часцях МУС, мабільных сілах Беларусі.

"Усе тыя прызыўнікі, якія мелі права на адтэрміноўку, яе атрымалі. У асноўным, гэта хлопцы, якія вучацца або тыя, хто часова нягодны па стану здароўя. Падчас гэтага прызыву не з'явіўся ў ваенкамат слонімец Гурскі. Па некаторых звестках ён цяпер знаходзіцца ў Польшчы", — сказаў палкоўнік Купка.

**Сяргей ЁРШ**

заглянем на рынок

*Цены в руб.*

| | 12.12.99 | 23.01.00 | | 12.12.99 | 23.01.00 |
|---|---|---|---|---|---|
| лимоны | 700 | 800-960 | яйца (1 дес.) | 400 | 450 |
| апельсины | 500-600 | 650 | картофель | 50 | 70-75 |
| морковь | 90 | 100 | чеснок | 600-750 | 1200 |
| мед натуральн. | 1600-1850 | 2500 | бананы | 350-450 | 750-800 |
| свинина | 700-1200 | 800-2200 | мандарины | 700 | 850 |
| сало | 750-800 | 1300 | орехи грецкие | 600 | 700 |
| молоко | 80 | 90 | яблоки свежие | - | 370-450 |
| сметана | 300 | 400 | сахар | - | 260 |
| масло сл. | 1400 | 1200 | рис | 420 | 450 |
| масло растит. | 600 | 700 | гречка | - | 600 |
| творог | 250 | 400 | лук | - | 190 |

**Нядаўнія снегапады прыбавілі клопатаў слонімскім дарожнікам. Тым не менш, па словах начальніка дарожна-эксплуатацыйнага ўчастка Івана Якімца, у гэтыя дні яго работнікі добра справіліся з працай. "Была задзейнічана ўся тэхніка, якая ёсць у наяўнасці. Найперш ачысцілі вуліцы, па якіх курсіруюць гарадскія аўтобусы. Перабояў у руху не было", — сказаў Іван Якімец.**


Фота Віталя ГІЛЯ

# ТЭЛЕФОН І Ў XXI СТАГОДДЗІ БУДЗЕ ДАСТУПНЫ НЕ ЎСІМ

**Нядаўна рэдакцыю "ГС" наведала жыхарка вёскі Вераб'евічы Слонімскага раёна Раіса Мікалаеўна Шастак. Яна расказала пра тое, што ніяк не можа ўстанавіць тэлефон з 1986 года...**

Па словах Раісы Шастак, у Вераб'евічах тэлефоны маюць толькі некалькі чалавек. Ёсць яшчэ два тэлефоны службовыя — на ферме і ў краме, аднак пазваніць з іх, практычна, немагчыма. А тэлефанаваць Раісе Мікалаеўне даводзілася часта — у Слоніме ў бальніцы з траўмай пазваночніка доўгі час ляжаў яе муж...

Аднак гэта праблема хвалюе не толькі сям'ю Шастаковых, але і іншых вяскоўцаў. Яны не могуць зразумець, чаму ў Вераб'евічы, ад якіх да горада ўсяго некалькі кіламетраў, ніяк не могуць правесці тэлефон?

Раіса Шастак неаднойчы хадзіла да розных начальнікаў, апошні раз — перад Калядамі. "Але яны са мной і гаварыць не хацелі, толькі казалі, што няма ў іх патрэбнага кабелю", — гаворыць Раіса Мікалаеўна. Цяпер Шастакі думаюць шукаць праўды ў "вышэйшага начальства", можа нават у самога прэзідэнта...

Сітуацыю згадзіўся пракаменціраваць начальнік раённага вузла сувязі Сяргей Карачараў. Па яго словах, такая праблема ёсць не толькі ў вёсках, але і ў горадзе, дзе пакуль немагчыма тэлефанізаваць цэлыя вуліцы. Нарэшце праблемы Вераб'евіч ён сказаў: "Трэба паваялічваць магутнасць станцыі ў Парэччы і пракладваць кабель. Але гэта не хутка будзе. Патрэбны сродкі, якіх няма".

Мусіць нашы людзі яшчэ не ўсвядомілі, што жывуць у збяднелай краіне, у якой і ў XXI стагоддзі тэлефон будзе даступны не ўсім...

**Сяргей ЁРШ**

# МОЖЕТ ЛИ БЕЛАРУСЬ ПРОЖИТЬ САМОСТОЯТЕЛЬНО?

**(Начало на стр.1)**

Все государственные должности могли занимать только русские, которые были проводниками русификаторской политики. Такая практика сохранилась и в советское время. После второй мировой войны на Беларусь хлынула новая волна переселенцев из России. Коммунистические идеологи отводили им важную роль в окончательной русификации Беларуси и создания новой этнической общности — народа, лишенного своего языка, народа над которым можно проводить любые эксперименты. А наше население, под предлогом кулаков и врагов народа, отправляли осваивать необъятные просторы тундры Коми и Магадана.

А вот что сказал в наше время премьер России Путин по телевизору: "...мы будем уничтожать экстремистов и бандитов везде, где бы они не находились". И уничтожали: в Риге и Вильнюсе, Тбилиси и Баку, Темиртау и Алма-Ате, Будапеште и Праге, Афганистане и других местах. В этом уничтожении активно помогает Московская церковь. 15 января 2000 года митрополит Кирилл, выступая с проповедью по телевизору, пояснил телезрителям, что церковь стала воинствующей, потому что надо уничтожить зло.

Российский священник красуется на экранах с автоматом в руках и хвастается, как он вместе с омоновцами ходит в бой. А ведь первая христианская заповедь: "Не убей!". Оправдывая свои преступления в Чечне, российские генералы уверяют, что в Чечне большинство воинов — наемники. Как известно, солдату срочной службы российской армии платят в месяц не более 20 тыс. руб. В одной из телепередач жена омоновца проговорилась: "За эту командировку мужа в Чечню мы решили купить квартиру". Так спрашивается, кто же наемник? Хабаровский омоновец или чеченец, защищающий свою землю?

Недавно Путин высказался откровенно о том, что не будет выпускать из окруженного Грозного мужчин от 10 до 60 лет. "Покончим с Грозным, а остальных загоним в пещеры и уничтожим, кто бы там не был", — заявил он. Вот какая российская демократия. Журналист С.Доренко по ОРТ показал сюжет, как на московских рынках орудуют бандиты вместе с милицией. Ежедневно в Москве и Петербурге совершается по несколько убийств. Почему же Путин не уничтожает бандитов у себя под носом?

Я ничего не имею против русского народа, но уж больно страшно вступать в союз с империей зла, тем более что мы уже были в ее объятиях.

Как известно, государство Египет живет за счет своего канала. Почему же Беларусь, имея пять каналов (газопровод, нефтепровод, железнодорожный, воздушный, автодорожный) не может прожить самостоятельно?

**Павел НАУМОВИЧ, 65 лет**

## ЗДАРЭННІ

### Печ не толькі грэе

**У доме жыхара вёскі Сялявічы Слонімскага раёна Міхаіла Засімовіча ўзнік пажар.**

Прычына загарання — няспраўная печ.

### Пажар у падвале

**Днямі ў падвале дома №5 на Брэсцкай вуліцы ўзнік пажар.**

Пажарныя справіліся з агнём і ўстанавілі, што пажар узнік ад кінутага акурка. Згарэлі старыя рэчы, мэбля і г.д.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Затрымалі за ашуканства

**Днямі Дзятлаўскі РАУС узбудзіў крымінальную справу за ашуканства.**

Супрацоўнікі міліцыі выявілі мужчыну, які, карыстаючыся даверам свайго знаёмага, выманіў у яго 240 даляраў.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

### Рекордная смертность

**На Гродненщине в 1999 году зарегистрирована рекордная смертность в результате пожаров.**

В областном управлении МЧС не припомнят, чтобы в последние десятилетия за один год в огне погибло 108 человек. 70 человек погибли из-за курения в нетрезвом состоянии. Всего за прошлый год произошло 1664 пожара, что на 101 больше, чем в 1998 году. Материальный ущерб от пожаров составил более 276 миллиардов рублей.

**Ася КУНИЦКАЯ**

### Бяда на могілках

**У пасёлку Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна дрэва моцна пакалечыла мужчыну.**

Здарылася гэта падчас пілавання дрэў на мясцовых могілках.

### Папаліся

**Мужчына з Дзятлаўскага раёна прадаў сто грам макавай саломкі жыхару са Слонімшчыны.**

Гандляра і пакупніка затрымала міліцыя. Адбыўся суд. Абодва атрымалі пакаранне: да двух гадоў выпраўленчых работ па месцу працы з вылічэннем 20% заробку ў даход дзяржавы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Высакосны год пачаўся

**Вельмі неспрыяльным выдаўся дзень Вадохрышча для мастаўчан.**

Ад абмаражэння ў бальніцы памерла сталага веку жанчына. Другая кабета скапала па дарозе ў царкву. Пяцідзесяцігадовы мастаўчанін Х. у гэты дзень памёр прама ў ванным пакоі.

**Антон МАКЕЙ**

## НАВІНЫ

### Слонімская ДАІ ў ліку прызёраў

**Аддзел ДАІ Гродзенскай вобласці падвёў вынікі службовай дзейнасці сваіх падраздзяленняў за 1999 год.**

Трэцяе месца сярод падраздзяленняў першай групы заняў калектыў ДАІ Слонімскага ГРАУС, якое ўзначальвае падпалкоўнік міліцыі Віктар Андрыеўскі.

Сярод падраздзяленняў другой групы на другім месцы — ДАІ Дзятлаўскага РАУС на чале з маёрам міліцыі Алегам Шостакам.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Змена "каравула"

**Раней на ўваходзе ў будынак Мастоўскага дома саветаў стаялі звычайныя вартаўнікі.**

Хутка іх зменяць супрацоўнікі ваенізаванай службы "Ахова".

**Антон МАКЕЙ**

# ЧЫМ БАРАНІЦЦА АД ГРЫПУ?

**Як паведаміла карэспандэнту "ГС" урач-інфекцыяніст Эльвіра Бараноўская, па стану на 24 студзеня 2000 года ў горадзе і раёне зафіксавана ўсяго 10 выпадкаў захворванняў на грып. Тым не менш, як сцвярджаюць медыкі, эпідэміі нам не мінуць. Якімі лекамі чалавек можа бараніцца ад хваробы?**

З гэтым пытаннем карэспандэнт "ГС" звярнуўся ў шэраг аптэк горада, каб даведацца, якія медыкаменты супраць грыпу могуць прапанаваць фармацэўты.

Фота Віталя ГІЛЯ

У аптэчных кіёсках, якія месцяцца ў Доме саветаў, у інтэранаце МПМК-164 на Чырвонаармейскай вуліцы і ў інтэрнаце КПФ на Брэсцкай вуліцы карэспандэнту перш за ўсё назвалі супрацьвірусныя прэпараты, якія папярэджваюць хваробу: рэмантадзін, інтэрферон, аксалінавую мазь і экстракт элеутэракока. Там таксама можна набыць лекі, якія паніжаюць тэмпературу: аспірын, аскафен, парацытамол і іншыя. У гэтых аптэчных кіёсках быў у наяўнасці вялікі выбар вітамінаў. Правізар, прыватны прадпрымальнік Ганна Жук, сказала, што ва ўсіх трох пералічаных кіёсках маецца багаты выбар антыбіётыкаў, якія прымяняюцца для лячэння грыпу: цэфаліксін, сервекс, доксіцыклін, ампіцылін, эрытраміцын і іншыя.

У аптэцы №9, якая знаходзіцца на Косаўскім тракце, з супрацьвірусных прэпаратаў у наяўнасці былі інтэрферон і аксалінавая мазь і даволі шырокі асартымент жарапаніжаючых лекаў. А вось у аптэцы №54, што на Баранавіцкай вуліцы, на той дзень супрацьвірусных прэпаратаў не было. Не вельмі багатым быў выбар супрацьгрыпозных лекаў і ў аптэцы №108, што на праспекце Скарыны.

У цэнтральнай гарадской аптэцы №61 21 студзеня адсутнічалі медыкаменты, якія прызначаны для прафілактыкі вірусу грыпу. Аднак загадчыца аптэкі Алена Курцэвіч прапанавала багаты асартымент антыбіётыкаў. У якасці навінкі яна назвала прэпарат "Антыгрыпін" вытворчасці Францыі. Праўда, кошт яго ў некалькі разоў большы за падобны прэпарат айчыннай вытворчасці.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**УДАКЛАДНЕННЕ**

У №3 "ГС" ад 13 студзеня была змешчана заметка пра тое, што ноччу 10 студзеня ў доме №17 на Баранавіцкай вуліцы ўзнік пажар. Такі факт рэдакцыя атрымала ад пажарных. Пазней высветлілася, што на самай справе пажар узнік у доме №17 на Юбілейнай вуліцы.

Рэдакцыя просіць прабачэння ў гаспадароў дома №17 з Баранавіцкай вуліцы за недакладнасць, якая здарылася не па віне "ГС".

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 25 студзеня 2000г. Час падпісання 18:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 9000 экз.
Заказ № 368



E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

# КАЛІ СЕЛЯНІН СТАНЕ ГАСПАДАРОМ?

Калі наведваеш краму, то заўважаеш, што з года ў год зніжаецца асартымент малочных і мясных прадуктаў і, наогул, не толькі асартымент, але і якасць. У чым справа? Чыноўнікі ад вертыкалі сцвярджаюць, што ва ўсім вінавата надвор'е. Чаму ж тады нашым суседзям літоўцам ці палякам яно не перашкодзіла сабраць добры ўраджай.

Тыя, хто сёння кіруе краінай ды аграрным комплексам, баяцца назваць сапраўдную прычыну. А прычына не ў надвор'і, а ў заганнай калгасна-саўгаснай сістэме.

Селянін спрадвеку ў любой краіне свету карміў народ не толькі хлебам, але і з'яўляўся носьбітам нацыянальных традыцый, сваёй культуры і мовы. Адметнай рысай селяніна з'яўляецца перш за ўсё тое, што яму ўласцівыя вольналюбства і ўласніцтва. Ён ад прыроды сам сабе гаспадар, не любіць, калі над ім стаяць з пугаю. І калі бальшавікі ў 1917 годзе прыйшлі да ўлады, то сваёй галоўнай мэтай паставілі знішчыць сялянства як клас. У селяніна адабралі зямлю, адабралі ўсе сродкі вытворчасці, усю маёмасць і пакінулі яго з пустымі рукамі ў пустой хаце, абагуліўшы ўсё ў гурт пад назвай "калгас". Вядома, што чалавек без уласнасці — гэта раб. Яго нельга назваць нават прыгонным, таму што прыгнечаны селянін меў свае ўласныя сродкі вытворчасці, якімі ён апрацоўваў свой зямельны надзел і зямлю пана. Такое становішча было характэрна для сярэдзіны 19 стагоддзя, а ці змянілася яно сёння, а калі змянілася, то ў які бок?

Вось, напрыклад, у вёсцы Васілевічы Слонімскага раёна, у якой налічваецца 142 двары, усяго трое коней. Вось і ламае галаву селянін, чым апрацаваць свой агарод? Трактарам... Але ўвесь трактарны парк у руках аднаго гаспадара — старшыні калгаса. Даць ці не даць табе трактар — залежыць ад яго добрай волі і настрою.

Абрабаваны селянін не мог процістаяць камуністычнай уладзе. А ўлада тым часам заваліла свайго раба таннай гарэлкай, і, як кажуць, працэс пайшоў. Камуністы добра разумелі, што п'яны раб — гэта пакорлівы раб. П'янаму не патрэбна ні ўласнасць, ні свабода, ні незалежнасць, ні нацыянальныя святыні, ні мова, ні Боскі храм. Вёска пачала паступова тапіцца ў чарцы і выміраць.

У той жа вёсцы Васілевічы, дзе пражывае 394 чалавекі, у 1999 годзе нарадзілася 8 дзяцей і столькі ж людзей памёрла, а ў цэлым у Васілевіцкім сельсавеце (а гэта 10 вёсак), нарадзілася 14 дзяцей, а памёрла 42 чалавекі. Трэба мець на ўвазе, што вёска Васілевічы — цэнтр сельсавета, і там пражывае значная частка вясковай моладзі.

Трэба адзначыць і такі факт. За час фашысцкай навалы на Беларусі было знішчана 2500 вёсак, а за пасляваенны час камуністы знішчылі 8000 вёсак. Праўда, людзей жывымі там не палілі, а проста дапамагалі ім самім памерці. Гэты працэс працягваецца і сёння.

Сёння ўсё часцей можна чуць, асабліва ад людзей старэйшага ўзросту, што патрэбна "моцная рука". Вось пры Сталіне такога не было б. А ці ведаюць яны, што ў сталінскіх лагерах загінулі дзесяткі мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей, сярод якіх была вялікая колькасць дбайных гаспадароў — сялян. Іх галоўная віна была ў тым, што яны любілі зямлю, умелі на ёй гаспадарыць і сваёй напружанай працай ствараць уласнае багацце. "Моцная рука", на мой погляд, патрэбна сёння п'янаму, дэградыраванаму селяніну-рабу.

Дзе выйсце, што рабіць? А выйсце адно — тэрміновае рэфарміраванне сельскагаспадарчага комплекса. Неабходна ў заканадаўчым парадку зямлю зрабіць таварам. Тут многія заламантуюць, як жа так, немцы, палякі, амерыканцы скупяць нашу зямлю, а беларусаў ператвораць у рабоў без вайны. Трэба ведаць, што ва ўсім свеце зямля прадаецца і купляецца, але ад гэтага ні адна краіна не страціла сваёй незалежнасці.

**Мікола АНТОНАЎ**



Фота IREX/ProMedia

*Клаўдзія Савіцкая працуе жывёлаводам на ферме ў Акунінаве аграфірмы "Шчара"*

## И ЕЩЕ РАЗ О ЗЕМЛЕ

**В Беларуси валовое производство сельхозпродукции по сравнению с 1990 годом сократилось в два раза. Например, за этот период поголовье крупного рогатого скота уменьшилось с 7 млн. 166 тыс. голов до 3 млн. 398 тыс., свиней — с 5 млн. 204 тыс. до 2 млн. 329 тыс.**

Неблагоприятное положение складывается и с заготовкой кормов на зиму. В 1999 году, по сравнению с 1998 годом, сена заготовлено меньше на 12%, сенажа — на 41%, зернофуража — на 31%. Мне кажется, что вина за кризис в сельском хозяйстве ложится не только на сегодняшнее руководство. Причина — существующая до настоящего дня колхозно-совхозная система. К великому сожалению, большинство граждан Беларуси не знают о том, что 4 января 1999 года президент РБ Лукашенко подписал принятый Земельный Кодекс, который ввел в действие частную собственность на землю. Этим самым из статьи 15 Конституции была аннулирована коллективная форма собственности. Получается, что колхозы поставлены вне Закона? Ведь на сегодняшний день законодательно закреплены только частная и государственная собственность.

Сегодня одним из основных направлений реформирования сельскохозяйственного производства является создание на базе колхозов и совхозов иных видов юридических лиц, базирующихся преимущественно на частной собственности.

В соответствии со статьей 1141 Гражданского Кодекса эти же преобразования должны быть завершены до 1 июля 2000 года.

Получается, что у крестьян землю выкупят и перепродадут. Поэтому, возможно, они не спешат выйти из колхозов и стать вольными фермерами. На это есть и объективное мнение. Сегодня на 1000 га пахотной земли белорусских фермеров приходится всего 3 трактора, в Германии же — 124. Из 24 развитых стран Запада и Востока госдотации в сельское хозяйство составляют в среднем 50% стоимости сельхозпродукции (в Японии и Финляндии до 80%). На одного фермера она составляет в среднем 30 тыс. долларов в год. У нас же инвестиции в сельское хозяйство составляют только 10% от уровня 1990 года...

В Беларуси, согласно статье 87 Земельного Кодекса, "земельные участки ... могут являться предметом купли-продажи, дарения, залога, аренды ..." Этим мы шагнули дальше и смелее других стран СНГ, взявших курс на либерализацию экономики и сельского хозяйства. Подтверждением этого может служить обращение Польши и Литвы (они то значительно опередили Беларусь в своих преобразованиях) в Совет Европы с просьбой о мораторииі на продажу земли иностранцам на 10 лет, ибо в противном случае страны могут остаться без собственной земли.

В Венгрии из 1420 кооперативов после реформирования крестьяне добровольно восстановили 1400 коллективных хозяйств. Восстановили сами и добровольно. Это некоторым образом позволило им успешно преодолеть кризис.

Мы же добиваем колхозы, пытаемся вырастить собственного фермера и ставим под угрозу продовольственную безопасность государства, поддерживая своими деньгами зарубежного сельхозпроизводителя, закупая у него продукты.

**Виктор ГЕРАСИМЧИК,**
первый секретарь Слонимского РК ПКБ,
депутат городского Совета депутатов

# БЕЛОРУССКОЕ СЕЛО ВЫХОДИТ НА ОЧЕРЕДНОЙ ВИТОК РЕГРЕССА

Константин СКУРАТОВИЧ, журналист

**(Начало в №4, 2000г.)**

Поэтому всякие хозяйственные связи между городокскими и берестовицкими белорусами практически прекратились, равно как и всякие человеческие контакты между ними. Но сценарий развития (как потом оказалось на самом деле — деградации) был практически одним и тем же по обе стороны границы. Имеем в виду народное хозяйство, которое при социализме всегда малоэффективно.

Но было и существенное различие. В Городке, как и во всей Польше, не было такой жесткой, принудительной коллективизации, как в СССР. Здесь если и создавались колхозы и совхозы, то это делалось или на самом деле добровольно, или на землях, принадлежащих государству. Поэтому социализм в Польше, в отличие от советского, выглядел каким-то недостроенным.

Польские крестьяне хозяйствовали в основном на собственной земле и могли распоряжаться результатами своего труда. Единственным, что ограничивало их свободу, была государственная монополия в перерабатывающей промышленности, благодаря чему государство могло устанавливать низкие закупочные цены. Таким образом государство стремилось управлять крестьянской вольницей, как это делала КПСС с колхозниками. Но крестьяне собственную свободу ценили больше, чем планы строительства коммунизма польского образца. Они стали сокращать производство, отказываться от торговли с государством на его условиях, в результате чего в стране начался затяжной продовольственный кризис.

Что было дальше, все знают: образование "Солидарности", военная диктатура, демократическое сопротивление и в конечном итоге поражение коммунистов.

В Беларуси уже 10 лет подряд объемы сельхозпроизводства снижаются как в общественном, так и частном секторе. А вместо того, чтобы покупать в магазинах качественные продукты, населению приходится читать и выслушивать различные бюрократические комментарии. Например, яиц нет потому, что зимой куры не несутся. Но ведь польские куры принципиально от белорусских не отличаются. Почему же у соседей яйцами торгуют круглый год?

Дальше — больше. Как рассказал пан войт, полсотни крестьянских хозяйств образовали полсотни кооперативов по сбыту молока, что позволяет обеспечить потребности всего населения гмины. Интенсивность производства такова, что, при общем сокращении площадей под пропашные культуры, выход продукции, в том числе и животноводческой, значительно увеличился.

Но в настоящее время существует около тысячи хозяйств. Как же быть с ними? Это очень тонкий момент, потому что сторонники социальной справедливости неизменно используют его для критики рыночных отношений: вот, мол, как рыночная стихия разоряет крестьян. О том, что все плановое хозяйство строится на таком разорении, они не вспоминают. Но есть что возразить и на этот "убийственный" аргумент. Как и белорусская, польская деревня стареет. Поэтому число хозяйств постоянно сокращается. Но в отличие от белорусского коллеги, польский крестьянин имеет землю в собственности. Он может ее продать, сдать в аренду, передать по наследству. Таким образом наряду с пенсией земля приносит старикам дополнительный доход.

### А у нас вопрос. Кадровый

И уж коль речь зашла о частной собственности, то невозможно было не спросить пана войта о проблеме спекуляции земельными участками. У нас ведь "земельный вопрос", включенный президентом в референдум-96, подавался именно под таким соусом. Оказывается, такой проблемы нет. Земля в крестьянской среде традиционно оценивается как наивысшая ценность, земельный рынок только формируется, а сама гмина, которая имеет муниципальные земли, предпринимает колосальные усилия, чтобы использовать их для привлечения инвесторов, потому что гмина все еще недостаточно богата.

В последнее время белорусские власти районного уровня бьют тревогу: в частном секторе сокращается поголовье свиней и крупного рогатого скота.

Если свести в одно целое все обстоятельства, которые предопределили эту ситуацию, то главная ее причина будет выглядеть так: белорусское крестьянство как класс пало жертвой сверхэксплуатации. Даже в самых "сельских" районах коров имеют 30 - 40 процентов семей. В нынешнем году в связи с сокращением поголовья и продуктивности в колхозах ситуация становится катастрофической.

А между тем объясняется все просто. Скотину, прежде всего коров, в деревнях традиционно держали хозяйки. А они ныне в основном пенсионерки. И если хозяйка болеет, то за коровой некому смотреть, и ее сбывают. Низкие заработки в колхозах компенсировались трудом в собственном хозяйстве.

Не менее принципиальное расхождение представлений о цветущей колхозной жизни радетелей рыночного социализма с грубой действительностью обратило, наконец, и внимание наших парламентариев. Решив "вдохнуть жизнь в опустевшие деревни", Палата представителей Национального собрания даже провела специальные слушания "Состояние, проблемы и перспективы обеспечения сельского хозяйства трудовыми ресурсами". В констатирующей части докладчики отметили острую нехватку кадров - специалистов и представителей массовых профессий, назвав в качестве причин низкие заработки, скверный соцкульбыт и тяжелые условия труда. Эти же причины назывались и 10, и 30 лет тому назад.

Колхозы, которые еще 5 лет назад привлекали людей молодых и честолюбивых, ныне превратились в тяжкую для них повинность. И все потому, что при нынешней аграрной политике управлять ими невозможно. Поэтому в низах власти носится идея: заставить успешно работающих фермеров взять на себя ответственность за колхозы-банкроты, заставить их стать председателями коллективно-долевых хозяйств ("преобразованных" колхозов) или просто принять колхозы в аренду.

Как видим, начинается очередной виток спирали. Но не развития, а регресса.

Газета Слонімская
27 студзеня — 2 лютага, 2000г. № 5 (138)

**Шаноўныя чытачы! Сёння мы адкрываем новую рубрыку — "ІНТЭРВ'Ю З ПРЫГОЖАЙ ЖАНЧЫНАЙ". Нам здаецца, што непрыгожых жанчын не бывае: кожная прыгожая па-свойму.**

# Раіса Лакіза: "Я ЛЮБЛЮ АДЗІНОТУ"

***— Раіса Уладзіміраўна, ужо некалькі гадоў Вы працуеце інспектарам Дзятлаўскага аддзела народнай адукацыі, а раней былі настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў школе. Якая праца больш падабаецца: чыноўніцкая ці настаўніцкая?***

— У школе мне было лепш. Адчувала нейкі душэўны камфорт, кожны дзень рабіла жывую творчую справу. З дзецьмі не адчувала ўзросту, была заўсёды маладая. Я давала ім веды, а яны мне — сваю энергію і запал.

***— Сустракаю Вас на вуліцы і любуюся: жыццярадасная, з вясёлай усмешкай. Ствараецца такое ўражанне, што Вам жывецца лёгка і хораша. Гэта сапраўды так?***

— Ого, каб было так... Я проста стараюся нідзе і нікому не паказваць свой душэўны стан. Дрэнныя эмоцыі пакідаю дома. Але павінна сказаць, што так было не заўсёды. Раней, пасля смерці мужа, я хадзіла як у ваду апушчаная. Усё здавалася нецікавым, будзённым, шэрым. Мне споўнілася 41 год, а здавалася, што жыццё ўжо закончылася. І з такога стану мяне вывеў... хто б Вы думалі?.. Малодшы сын Алег, які тады яшчэ быў школьнікам. Аднойчы ён паглядзеў на мяне і кажа: "Мама, чаму ты ходзіш такая панурая? Носіш вопратку шэрага колеру, рэдка ўсміхаешся. Паглядзі на сябе з боку. Трэба быць весялейшай. Нягледзячы ні на што, жыццё працягваецца." І ведаеце, ён перавярнуў нешта ў маёй душы, прымусіў паглядзець на жыццё іншымі вачыма.

***— У Вас два сыны. Як склаўся іх лёс?***

— Старэйшы, Вадзім, закончыў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, атрымаў дыплом з адзнакай. Два гады працаваў настаўнікам у школе. Потым закончыў аспірантуру пры Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Працуе над дысертацыяй. Цяпер ён — малодшы навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі.

Малодшы, Алег, таксама атрымаў вышэйшую адукацыю і таксама стаў гісторыкам. Працуе ў школе і мае невялічкую ўласную камерцыйную справу.

Я ўжо маю трох унукаў. Самы старэйшы ходзіць у школу.

***— Адвечная праблема: свякруха — нявестка. Якія ў Вас адносіны з нявесткамі?***

— Спачатку было вельмі няпроста. Я адношуся да ліку тых мамаў, якія, што называецца, дыхаюць баяцца на сваіх дзяцей. У нас былі (ды і засталіся) шчырае сяброўства, узаемаразуменне, павага. Мы — адно цэлае. А тут з'явіліся нейкія дзяўчаты і забралі маіх хлопчыкаў, сталі вельмі дарагімі для сыноў. Была рэўнасць, было такое адчуванне, што я страчваю самае каштоўнае. Зразумела, што мае нявесткі адчувалі гэта, і адносіны між намі


Раіса Лакіза з унукам

былі, мякка кажучы, халаднаватыя. Але з цягам часу я зразумела, што нічога не страціла, а наадварот, набыла. У мяне з'явіліся дзве цудоўныя дачкі, сяброўкі, з якімі можна шчыра пагутарыць, адкрыць душу і быць упэўненай, што цябе зразумеюць. А калі на свет з'явіліся ўнукі, то яны яшчэ больш з'ядналі нас.

***— Вы жывяце адна?***

— Не, забрала да сябе старэнькую маму. Да гэтага яна жыла ў вёсцы ў Нясвіжскім раёне. Цяпер ёй 83 гады — патрэбен догляд. Баляць ногі, а так мае цудоўную памяць, ведае на памяць шмат вершаў, цікавіцца палітыкай, чытае кнігі і перыядычныя выданні. З маёй мамай не засумуеш.

***— Раіса Уладзіміраўна, у Вас ёсць сяброўкі?***

— Няма. Ёсць калегі, знаёмыя. Мае сябры — гэта мае дзеці.

***— Вы не давяраеце жанчынам?***

— Так. Але нікога ў гэтым не віню. Мая душа не знайшла ў жаночай кампаніі ўтульнасці.

***— Вы ад гэтага пакутуеце?***

— Не. Я люблю адзіноту. Прычым, адзінота мяне не прыгнятае, а дае магчымасць займацца карысной справай. Я захапляюся літаратурай, паэзіяй. Маю вельмі каштоўную бібліятэку. Ёсць кнігі, на якія я гляджу з заміраннем сэрца. Адну кніжку я шукала дзесяць гадоў. Убачыла некалі ў дзятлаўскім магазіне, пагартала, паклала на месца. Разважала: купіць — не купіць? Пакуль разважала, падышла нейкая жанчына і ўзяла. З той пары шукала яе ў бібліятэках, кнігарнях. Праз дзесяць гадоў сын прывёз яе з камандзіроўкі. Як я была рада! Гэта кніга публіцыста і даследчыка Яўгена Богата. У ёй сабраны пісьмы вялікіх людзей пра каханне. Яна называецца "Што рухае сонца і свяцілы..." Дарэчы, у Андрэя Дзяменцьева ёсць верш, прысвечаны гэтай кнізе.

***— Што Вы больш за ўсё цэніце ў людзях?***

— Дабрыню і высакароднасць. Такія людзі, на маю думку, не здольны на подласць, здраду. А яшчэ люблю шчырых і адкрытых, якія не баяцца сказаць праўду ў вочы.

***— Вы заўсёды апрануты з вялікім густам, акуратна прычасаны. Дзе гэтаму навучыліся?***

— Спецыяльна нідзе не вучылася. Проста прыглядаюся да іншых жанчын, параўноўваю, раблю высновы для сябе. Ведаю, што мне пасуе, што псуе. Вопратка дапамагае падтрымліваць і ўнутраную форму. Як у Чэхава, памятаеце, у чалавека ўсё павінна быць прыгожым...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Як гукнецца...



Чакаць аўтобуса было доўга, і я сядзела на невялічкай станцыі, з сумам назіраючы, як за акном, нібы скрозь сіта, сеецца нудны асенні дождж. Дзве пажылыя кабеты, уладкаваўшыся побач на лаўцы, гаманілі аб сваім, але па вясковай звычцы даволі гучна, і ўсе, хто быў у зале, чулі іхнюю размову.

— Дык вось, мая ты галубка, жыву я пры сыну. Дачка аж но ў Казахстане, мае сваю сям'ю, а я пры сыну, — працягвала гутарку пульхная кабета з шустрымі, як у вавёркі, вачыма.

— Ну, і як жа табе? — пацікавілася сяброўка — невялічкая, апранутая ў паліто маладзёжнага пакрою, можа з дачкі ці нават унучкі плячы.

— Добра, дзякуй Богу, каб не горш, — запэўніла тая.

— З нявесткай як? — усё дапытвалася невялічкая, падвязваючы тужэй цясёмкі башлыка.

— А што нявестка, махнула рукой другая. — Як сын, так і нявестка. Усё, галубка, ад сына залежыць.

— Ну? — паварушылася на лаўцы субяседніца.

— Вось табе і "ну". Памятаю некалі, калі я была маладая, моцна занемагла мая свякроў — кабета ціхая і пакорлівая, якіх на свеце мала. Жыла яна адна, яшчэ ў маладосці пахаваўшы мужа. Таму, калі захварэла, мы з Раманам павінны былі ўзяць яе да сябе. А хто ж возьме?

— Правільна, — паддакнула невялічкая.

— Дык вось. Хварэла яна цяжка, больш і не папраўлялася, на той свет раней часу пайшла. Але я не пра гэта. Ну, то забралі мы яе ў сваю хату. Ведаеш сама, колькі з нямоглым чалавекам клопату: і падай, і прымі, і памый. А тут на работу хадзіць трэба, дзеці яшчэ малыя, гаспадарка свая была. Круцішся цэлы дзень на адной пяце.

У ясныя цёплыя дні, як цяпер памятаю, верасень тады стаяў на двары, вельмі любіла яна з кіёчкам выйсці і пасядзіць на лаўцы ля плоту. Усё роўна як смерць сваю чула і з белым светам развітвалася.

Аднойчы прыходжу я на палудзень з работы. І Раман прыйшоў. Бачым, яна апранутая ў фуфайку сядзіць.

— Падай мне, Зіна, кіёчак. Я на лаўку выйду.

— Пачакаеш, — думаю, — са сваёй лаўкай. Тут работы процьма, а яна з кіёчкам прывязалася. І прытварылася, што не чую яе просьбы. А яна пасядзела ды зноў пра кіёчак.

Я спаласнула рукі, узяла той кіёчак і кінула ёй пад ногі, да ложка. Ну, яна падняла і паціхеньку выйшла з хаты. Сын мой малы якраз са школы вярнуўся і ўсё гэта бачыў ды чуў. Нядобра, з дакорам зыркнулі на мяне яго зеленаватыя\ вочы.

— Ідзі, сынок, памажы, бабулі да лаўкі дайсці, — сказаў Раман малому і выправіў яго за дзверы. А калі сціхлі хлапечыя крокі, муж так пагледзеў на мяне, што па спіне аж мурашкі пабеглі, сцялася ўся.

— Ты ведаеш, я паўтараць два разы не люблю, — сказаў, расцягваючы словы. — То запамінай: жонак у мяне можа быць і пяць, а маці адна. І калі яшчэ раз хоць словам, хоць поглядам ці рухам выдасі сваю пагарду да яе — будзеш каяцца ўсё жыццё. Я ўжо не кажу пра спагаду, якая ў тваёй душы, мабыць, не начавала Дык жа запомні...

— Не перадаць табе, галубка, якія пачуцці цясніліся тады ў маёй душы. Крыўда на мужа за такія словы, крыўда на свякроў, што, бачыш, трэба скакаць перад ёй на задніх лапках. А потым усё змяніў пякучы сорам. Яна ж мне слова ліхога ніколі не сказала, а я той кіёк як на сабаку кінула. Ды каму? Бездапаможнаму чалавеку, бабулі маіх дзяцей. І не мужавых кулакоў спалохалася, хаця мела ўсе падставы быць імі пачаставанай, а сумленне загаварыла.

З таго часу і праўда ні словам, ні поглядам, ні рухам не выказала я непрыязнасці да хворай бездапаможнай свякрухі. Ды і знікла яна, гэта непрыязнасць. Яшчэ два гады даглядала яе, ляжачую, калі ўжо зусім не ўставала з пасцелі. І пайшла яна на той свет, не трымаючы на мяне злосці. Лічы, на маіх руках памерла.

Тады і сын наш навучыўся паважаць і шанаваць бацькоў. Раман мой памёр мінулай вясной, дык сын з нявесткай мяне да сябе забралі. Сяджу як у Бога за пазухай. Ні пра паліва мне клопату няма, ні пра ежу ды адзенне...

Трэба было ісці, бо пад'ехаў мой аўтобус. А бабулі яшчэ засталіся на лаўцы. Яны нібы падводзілі вынікі свайго жыцця, раскладваючы па палічках сумленнне тое, што вярэдзіла ці сагравала душу.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

КУЛИНАРИЯ

## Яйца бенедикт

4 яйца, 2 яичных желтка, 2 ст. ложки сливок, 1 ст. ложка тертого сыра, 4 ломтика поджаренного хлеба, немного сливочного масла, 1 помидор, 1 рюмка десертного вина, 4 ломтика шпика, перец и соль по вкусу.

Сливки, яичные желтки, сыр и вино поставить на парную баню и загустить, постоянно помешивая, приправить перцем и солью. Приготовить из яиц 4 глазуньи. Обжарить 4 ломтика шпика и нарезанный дольками помидор. Ломтики хлеба слегка намазать сливочным маслом и на каждый положить по ломтику шпика, помидора и глазунью. Полить соусом, приготовленным на паровой бане, и сейчас же подать на стол.

## Американское рубленное мясо

250 г говядины высшего сорта, 250 г вареного картофеля, 3 стручка сладкого перца, 2 ст. ложки томатной пасты, сок 1 лимона, сахар, соль, перец, жир для жарения.

Говядину нарезать кубиками, разогреть в жире и подавить. Нарезанный кубиками картофель, нарезанные стручки сладкого перца и томатную пасту добавить к мясу и все вместе поставить тушить на небольшом огне.

Приправить соком лимона и сахаром, посолить и поперчить. Подать с белым хлебом. Рассчитано на 2 порции.

## Куриный сандвич

Вареного цыпленка без костей, 2 больших ломтя белого хлеба, 3-4 салатных листа, 1 ст. ложка майонеза, 2-3 помидора, 1 ломтик ветчины, 1 ст. ложка сливочного масла или маргарина, 2 редиски, 3-4 ломтика огурца, 2 стебелька петрушки.

Ломти белого хлеба намазать маслом, на один из них положить лист салата, слегка смазанный майонезом, на него — несколько ломтиков помидора, а сверху — слегка зажаренный ломтик ветчины.

Половину цыпленка разрезать на ломтики, смазать их майонезом, положить на ломтик ветчины и покрыть листом салата. Сверху закрыть вторым ломтем хлеба. Все это сколоть специальной палочкой, а сверху украсить ломтиками редиски, огурца, стеблями петрушки и дольками помидора. Рассчитано на 1 порцию.

## Куриный плов

Курица весом 1 кг, 1 пучок зелени для супа, 1-2 лавровых листа, 2 шт. гвоздики, 1 маленький острый перчик, 125 г растительного или сливочного масла, 2 стакана риса, 2 ст. ложки изюма, 1-2 ст. ложки зерен миндаля, соль, перец, порошок кэрри.

Курицу отварить до мягкости с пучком крупно нарубленной зелени и пряностями. Рис вымыть, обсушить и обжарить в половине масла. Затем добавить 4 стакана куриного бульона, приправить солью, перцем и порошком кэрри, добавить изюм и варить на слабом огне 10 мин. Мясо отделить от костей, нарезать мелкими кусочками и обжарить в остатках масла. Миндаль также подрумянить и смешать с готовым рисом. Блюдо должно быть очень острым и одновременно сладким.

## Турецкий гарнир

400 г стручков зеленой фасоли, 200 г сухой цветной фасоли, 150 г белого мясного соуса.

Сварить отдельно стручки зеленой фасоли и зерна сухой цветной фасоли, припустить в масле и смешать. Влить белый мясной соус и довести до кипения. Соус приготовить из муки и мясного бульона: муку пассировать в масле, залить бульоном, хорошо размешать и проварить соус на тихом огне.

